ных і яны ледзь могуць справіцца з работай. У дзьвюх гімназіях уніяцкіе духоўные вучуць рэлігіі. Уніяцкіе духоўные таксама даведываюцца да Одэсы, Кацярынаслава, Палтавы і г. д

ШТОКГОЛЬМ. Глаўная каман да польскіх войск у Расеі выпусьціла адозву да ўсяго польскага насяленьня ў Расеі аб мобілізацыі. Усіх палякоў ў расейскай арміі прызываюць выступіць з расейскіх палкоў і біцца пад нацыянальным штандарам. Прызываюцца нават жонкі, старые і малые працаваць за фронтам, як санітары.

Польскіе газэты ў Маскве, Пецярбурзі і Мінску шырапь гэту адозву між палякамі ў Расеі, каторых тамака налічаюць да 3 міліёнаў (?) Мобілізацыйная кам сія знаходзіцца ў Мінску.

ШТОКГОЛЬМ. С Торнэо наказываюць, што туды йдзе «чырвоная гвардзія».

У першым сваім нумэры газэта «Время» (быўшая «Веч. Время») памесьціла стацьцю Б. Нечаева, у каторай між іншым пішэцца:

«Ніводная абецанка большэвікоў ня споўнена. Міра німа, а калі яго і зробяць в Німеччынай за цяжкую цану, дык затое ўжо пачалася унутрэная вайна. Хлеба німа і ня будзе, і апавешчэная большэвікамі роўнасць выявіцца хіба ў тым, што ўсе роўна будуць уміраць ад голаду. Пуд жыта каштуе ўжо ад 150 да 200 р. Што станецца з Расеей у найбліжэйшых месяцах, нет магчымасьці нават болей меней падумаць.

ШТОКГОЛЬМ. Усе швэдзкіе газэты занімаюцца пытаньнем аб чынным выступленьні Швэцыі у фінляндзкіх справах. С прычыны заявы ураду аб немагчымасьці оффіцыяльна ўмешацца, — правые газэты дамагаюцца пазваленьня організаваць корпус дабравольцаў і права пасылаць у Фінляндзію аружжэ.

Учора прышла ад большэвікоў гэткая іскровая тэлеграма:

«Да ўсіх. Пільна.

«Да ўсіх караблёў, матросаў і запасных.

«Ніхто не павінен выхадзіць у запас, пакуль ня будзе знішчана «белая гвардзія» у Фінляндзіі. Яе пабеда — гэта разгром рэволюцыі. Аружжэ будзе выслано ў патрэбнай меры».

ПАРЫЖ. С Пецярбурга наказываюць, што ў народных массах узрастае прыхільнасць да соцыял-рэволюцыонераў.

ПЕЦЯРБУРГ. „Новая Жізнь" пішэ, што ўсерасейскі селянскі конгрэсс, адкрыўшыйся 23.I. разогнан ўраз жэ чырвонай гвардзіей. Маршалка арэштавалі. З'езд складаўся глаўным чынам с соцыял-рэволюцыонераў.

ШТОКГОЛЬМ. Прыехаўшый сюды знаўца палажэньня ў Расеі апавешчае, што ядыны даход Расеі становіць друкаваньне паперовых грошы. Урад большэвікоў мае выдаткаў каля 80 мільёнаў руб. у дзень. Салдатам плацяць па 8 руб., членам «чырвонай гвардзіі» — 25, а фаховым работнікам — ад 20 да 40 руб. у дзень.

КІЕУ. Украінцы разбілі паўстаньне большэвікоў. Галава нова-га украінскага міністэрства — быўшый галава украінскай дэлегацыі у Брэсьці, Голубовіч, каторы утварыў міністэрство без учасьця большэвікоў.

ХАРКОУ. Войскі украінскай рады занялі место.

ШТОКГОЛЬМ. Тутэйшы пасол Фінляндзіі, Грыппэнбэрг, падаў нямецкаму паслу пратэст проці ўчынкаў расейскага ураду, каторы, ня гледзячы на прызнаньне незалежнасьці Фінляндзіі, далей мешаецца ў яе ўнутрэные справы.

ШТОКГОЛЬМ. (В.Т.Б.). Кароль прыняў дэпутатаў ад Аляндзкіх астравоў, каторые падалі заяву с подпісамі 8.000 асоб аб прылучэньні астравоў да Швэцыі. Кароль сказаў, што пытаньне аб Аляндзкіх астравох будзе прадметам перэгавораў з вольнай і незалежнай Фінляндзіей.

ВЕНА. 31.I. 1.700 расейцаў с коньмі і вазамі перайшлі церэз аўстрыяцкіе лініі. Яны адступалі перад націскам румынскіх войск.

# З усяго сьвету.

БЭРЛІН. У прэдпрыемствах дзеля выробу ваенных матэр'ялаў работы пачаліся поўным ходам 5 лютага. Не явіліся толькі паадзінокіе работнікі с прычыны хваробы і інш.

Вэсткі с правінцыі рысуюць такі-ж самы абраз, і забастовачны рух можна лічыць закончэным.

БЭРЛІН. За агітацыю на карысць забастоўкі надзвычайны ваенны суд засудзіў члена Рэйхстагу Дітмана, абвінавачэнага у спробе здрады гасударства і правіцельства і праціўленьні ўласьці, на 5 гадоў у крэпасць і 2 месяцы ў вастрог.

БЭРЛІН (В.Т.Б.). Англіцкая газэта «Daily News» пішэ ў перэдавіцы аб патрэбе адстаўкі Льлёйда Джорджа, як няздольнага зрабіць мір. «Гэтага можэ дайсьці толькі дэмократычны урад, — і мы трэбуем чыста-работніцкага міністэрства, зложэнага з найбольш радыкальных работніцкіх кіраўнікоў і прыхільнікаў міра». Стацьця зрабіла вельмі сільнае ўражэньне.

БЕРЛІН. (В.Т.Б.). У англіцкай верхняй палаці урад заявіў, што па ўсей старане заводзіцца картачная сыстэма дзеля раздачы спажыўных прадуктаў.

ЛОНДОН (Рэўтэр). Прэдстаўнікі англіцкіх работнікаў учынілі крокі дзеля сазыву 20 лютага ў Лёндоне конфэрэнцыі соцыялістаў саюзніцкіх старон.

# ТЭЛЕГРАМЫ.

## Нямецкіе апавешчэньня:

**5.II. Заходні тэатр:**

*Фронт Рупрэхта Баварскага:* Ад марского узбярэжжа да Ліс—артылерыйскіе бітвы, асабліва ля чыгункі Бэссінгэ-Стадэн і між Пашэндалем і Бэцэлярам. Пры Армант'ер і Грэнкур узяты палонные англічане.

*Фронт нямецкага Насьледніка:* На поўдні ад Бомон мы глыбока ўрэзаліся у французкіе пазыцыі і вярнуліся с 33 палоннымі і некалькімі кулемётамі.

*Фронт Альбрэхта Вюртэмбэрскага:* На гарах над Маас і пры С. М'ель баевая чыннасць узмацавалася.

**6.II. Заходні тэатр:**

*Фронт Рупрэхта Баварскага:* У ваколіцах Армант'ер і на канālі Лябассэ артылерыйская чыннасць паабедзі узмацавалася. Каля Ленс — вострый мінамётны агонь.

*Фронт нямецкаго Насьледніка:* Разведкі ворагаў ў Аргоннах і пры Авокур адкінуты.

Учора збіты 7 варожых самалётаў і 1 прывязны лятучы шар.

## КАЛЯ ВАЙНЫ.

БЭРН. Французкіе газэты робяць намёкі, што глаўная каманда на ўсенькім заходнім фронці будзе аддадзена французскаму генэралу Фош.

ЛОНДОН. **Урадова.** Англіцкі ваенны транспорт Лювэн затоплен у Сяродземным моры. Утанулі 7 афіцэраў і 217 салдатаў.

БЭРЛІН (В.Т.Б.). У Сяродземным моры ізноў затоплены 4 параходы і 4 парусьнікі.

БЭРЛІН (В.Т.Б.). Адна з нямецкіх падводных лодак затапіла ў заходняй часьці каналу Ляманш 3 параходы, 2 парусьнікі, 4 рыбаловы ёмкасьцю разам 20.000 т.



Друкавана у друкарні Я. Кухты. Выдавецтва «Гоман». Рэдактар Язэп Салавей